■ ТРАНСПАРТ

# Час спадзявацца толькі на свае ногі

**МАЛАДЗЕЧНА. Самы буйны горад рэгіёна зведвае і самыя буйныя транспартныя праблемы. У некаторых райцэнтрах іх, праўда, наогул няма, бо няма і гарадскіх маршрутаў. У Маладзечне, падаецца, жыццё гарадскіх аўтобусаў і, адпаведна, маршрутаў уступіла ў апошнюю фазу.**

Упэўніцца ў падобным прымушае сітуацыя на аўтобусных прыпынках і словы дырэктара аўтапарка №4 **Пятра Мамчыца**: Эканамічнае становішча арганізацыі было і застаецца цяжкім. Належнага фінансавання няма...

Пра тое, каб зарабіць грошы, гаворка не ідзе. Зрэшты, Ямеля з рускай казкі дачакаўся свайго шчупака, можа, і ў аўтапарку дачакаюцца.

Тут сцвярджаюць, што ў мікрараёне №6, з улікам ягоных праблемаў, і так самае лепшае транспартнае абслугоўванне ў параўнані з іншымі.

А я добра зведаў, як у ім зрываюцца рэйсы нават раніцой, як вадзіцелі праязджаюць прыпынкі на 3–5 хвілін раней раскладу, як больш за гадзіну даводзіцца чакаць "адзінаццатку"... Хіба толькі ў іншых раёнах горада яшчэ горай, тады выбачайце.

Хаця логіку кіраўніцтва аўтапарка наогул цяжка зразумець. "Ставілася пытанне, каб скараціць па працягласці аўтобусныя маршруты, але ў інтарэсах насельніцтва (!?) на такую меру не пайшлі".

Патлумачце, дзе тыя інтарэсы (іх жа захавалі?). І ці не лепей, усё ж такі, зрабіць хоць нешта ў арганізацыі перавозак маладзечанцаў. Горш ужо не будзе.

Дэкларавана, што ад сённяшняга дня з мікрараёна №6 будзе хадзіць "школьны аўтобус". 7 разоў раўнамерна размеркаваныя на працягу дня. Хаця праблема ў школьнікаў узнікае, у асноўным, ад раніцы. Калі на работу дабіраюцца дарослыя, а тут яшчэ дзеці са сваімі ранцамі ды пакетамі. Днём пераважная большасць школьнікаў ідзе па сваіх школах пехатою (як, зрэшты, многія робяць і ад раніцы), а рэдкія аўтобусы ходзяць напаўпустыя.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Маладзечна, 7.30 учарашняй раніцы на прыпынку насупраць «Дзіцячага свету».

■ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# «Вялікай шасцёрцы» паставілі «нездавальняюча»

**МАЛАДЗЕЧНА. Яшчэ шэсць прадпрыемстваў горада – ААТ "Швейная фабрыка "Юнона", завод ЖБВ, ААТ "Маладзечнажалезабетон", ЗМК, ААТ "Канфа", завод металавырабаў – атрымалі нездавальняючую адзнаку ад выканкома па выніках сваёй работы за першыя 7 месяцаў. Крыху раней такую ж характарыстыку займелі "Электрамодуль" і "Спадарожнік".**

Кіраўнікі прадпрыемстваў абавязаныя прадаставіць у выканком праграму па ліквідаванні адставання ад леташняга ўзроўню і забеспячэння плацяжоў у бюджэт. Акрамя гэтага, на заводзе ЖБВ да 1 верасня павінна быць выплачаная зарплата за ліпень.

Гарадскія ўлады хадайнічаюць аб вызваленні заводаў ЖБВ, ЗМК і "Маладзечнажалезабетон" ад выплат у інавацыйны фонд, аб павелічэннні квоты "Юноне" на паставку дзіцячага адзення за мяжу і адначасовым зніжэнні на 30% квоты на ўнутраны рынак.

Акрамя гэтага, выканком просіць выдзеліць "Юноне" доўгатэрміновы льготны крэдыт і дазволіць "Юноне" і заводу металавырабаў устанаўліваць на сваю прадукцыю цэны звыш устаноўленага.

У пачатку наступнага года дырэктары "шасцёркі" адкажуць, ці выканалі план свайго развіцця.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ЗДАРЭННІ

# Пажар у школе–інтэрнаце

**МАЛАДЗЕЧНА. Амаль праз тры гадзіны пасля загарання Астанкінскай тэлевежы і з той самай прычыны – замыканне электраправодкі – адбыўся пажар у школе–інтэрнаце №2 для дзяцей са слабым зрокам.**

Інспектар дзяржпажнагляду пажарнай аварыйна–выратавальнай часці (ПАВА) №14 **Аляксей Іофе** гаворыць, што выклік зарэгістраваны 27 жніўня ў 16–59. Праз тры хвіліны пажарныя былі на месцы. Гарэла падсобнае памяшканне для халадзільнай камеры. Яшчэ праз тры хвіліны пажар лакалізавалі, а ў 17–15 ліквідавалі.

Знішчаны дах падсобкі і халадзільная камера.

Электраправодка ў інтэрнаце колькі год была амаль без нагляду: няма тут такіх спецыялістаў. Дагавор на абслугоўванне з электранаглядам не заключаны.

Электрапускаючую апаратуру накіравалі ў навукова–практычны цэнтр пажарнай бяспекі пры Мінскім абласным Упраўленні МНЗ, дзе зробяць канчатковае заключэнне аб прычынах пажару.

Дырэктар школы-інтэрната **Фёдар Клімавец** лічыць, што нічога жудаснага не адбылося:

– Тая халадзільная камера была 1964 года выпуску. Знос – 100%. Яна больш выкарыстоўвалася ў якасці склада. Там захоўвалі запасы мяса, калі яны былі. Усяго ў інтэрнаце 3 камеры. Падсобку разабралі, адразу пабудуем новую. У аўторак выдзелілі 2 новыя маразільнікі з Мінскага завода халадзільнікаў. Плаціць за іх абласны бюджэт (гэта значыць, і мы з вамі таксама – рэд.).

Наконт абслугоўвання Фёдар Клімавец разыходзіцца з пажарнымі ў меркаваннях:

– Энерганагляд не павінен рабіць абслугоўванне. Кухоннае абсталяванне на абслугоўванні маладзечанскага філіяла "Белгандальпрагрэса". Яны займаюцца заменай камер пры іх няспраўнасці. А выпрабаванні ніхто не робіць.

Сума ўрону ад пажару склала 207,5 тысячы рублёў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Дарэчы**. Маладзечанскі ПАВА-14 (пажарны аварыйна–выратавальны атрад) па выніках паўгоддзя стаў другім сярод аналагічных падраздзяленняў Мінскай вобласці.

■ ШКОЛА ЖЫЦЦЯ

# Зберажыце свой дом ад пажару

**З сённяшняга дня пачынаем друкаваць нататкі дзяржінспектара па пажнаглядзе атрада ваенізаванай пажарнай службы Вілейкі Алены Альфер. Прысвечаныя яны якраз правілам супрацьпажарнай бяспекі.**

Шмат пажараў адбываецца ў жылых дамах і кватэрах па прычынах парушэння элементарных правілаў устройства і эксплуатацыі тэлевізараў, халадзільнікаў, магнітафонаў, іншага электраабсталявання і электраправодкі.

Асноўныя прычыны пажараў ад электрычнага току – кароткае замыканне, перагрузка электраправадоў, іскрэнне і нагрэў кантактных злучэнняў. Кароткае замыканне ў сетцы адбываецца пры злучэнні адзін з адным двух аголеных праваднікоў току праз малое супраціўленне. Пры гэтым правады моцна награюцца, з–за чаго загараецца ізаляцыя і можа ўзнікнуць пажар.

Перагрузка электраправодкі ў бытавых умовах адбываецца пры адначасовым уключэнні ў сетку некалькіх спажыўцоў току (лямпаў, плітак, прасаў, радыёпрыёмнікаў). Пры гэтым правады, з-за праходжання па іх току велічыні, якая пераўзыходзіць дапушчальную для іх сячэння, хутка награваюцца да высокай тэмпературы, што стварае небяспеку ўзнікнення пажару.

Злучэнні правадоў награваюцца тады, калі яны маюць няшчыльны кантакт або калі правады злучаныя паміж сабой скруткамі замест пайкі. Дрэнны кантакт у гэтым месцы можа выклікаць павышэнне тэмпературы да кропкі плаўлення металу і, калі месца, дзе адбываецца нагрэў, сутыкаецца з гаручымі прадметамі (а гэта часта так і бывае), то гэтыя прадметы загараюцца.

Рост пажараў ад электраприбораў тлумачыцца тым, што гэтыя прыборы найбольш распаўсюджаныя ў быце. Імі карыстаецца шмат людзей, на жаль, не заўсёды ўмела і ўважліва. Падчас людзі забываюцца на тое, што прыбор уключаны і пакідаюць яго на працяглы час без нагляду. Гэта выклікае моцны перагрэў прыбора і пажар.

Гаспадыня кватэры спяшаецца зварыць абед. Яна ўключыла электрычную плітку. Нагрэў спіралі пры гэтым дасягае, прыкладна, 600–700 градусаў, а аснаванне пліткі награваецца да 250–300 градусаў. Пры ўздзеянні такой тэмпературы стол, стул або падлога, на якую пастаўленая плітка, могуць хутка загарэцца.

**Алена АЛЬФЕР.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 24 жніўня | 31 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 875,00 руб. | **910,00** руб. |
| Нямецкая марка | 400,03 руб. | **412,89** руб. |
| Літ | 218,80 руб. | **227,46** руб. |
| Расійскі рубель | 31,57 руб. | **32,79** руб. |
| Злоты | 201,57 руб. | **206,65** руб. |
| ЕЎРА | 782,38 руб. | **807,53** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1020 – 1050 руб. | **1010 – 1030** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 23.08 | 30.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1580 | **1450** |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | | **4975** |
| Сасіскі, 1 кг | 1404 | **1255** |
| Селядзец, 1 кг | 825 | **825** |
| Рыс, 1 кг | 340 | **355** |
| Грэчка, 1 кг | 600 | **620** |
| Цукар, 1 кг | 460 | **460** |
| Алей, 1 л | 730 | **750** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 420 | **380** |
| Маянэз, 250 г | 160 | **160** |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | **950** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 320 | **300** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 340 | **350** |
| Лімоны, 1 кг | 970 | **920** |
| Апельсіны, 1 кг | 550 | **540** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 280 | **250** |
| Капуста, 1 кг | 80 | **70** |
| Кавун, 1 кг | 200 | **200** |
| Дыня, 1 кг | 400 | **450** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 700 | **700** |
| Масла, 1 кг | 1500 | **1600** |
| Тварог, 1 кг | 450 | **450** |
| Малако, 1,5 л | 200 | **200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | **500** |
| Бульба, малое вядро | 350 | **350** |
| Морква, 1 кг | 100 | **200** |
| Маліны, малое вядро | 3000 | **5000** |
| Сліва, малое вядро | 1200 | **1000** |
| Алыча, малое вядро | 800 | **800** |
| Агуркі, 1 кг | 200 | **100** |
| Памідоры, 1 кг | 300 | **350** |
| Яблыкі, 1 кг | 150 | **150** |
| Грушы, 1 кг | 200 | **150** |

■ СПАЖЫВЕЦ

# Чэк выдаваць пакупніку абавязаныя

**МАЛАДЗЕЧНА. На рэчавым рынку прадавец абутку не даваў чэк на свой тавар: маўляў, не можа даць гарантыю на прадукцыю.**

Старшыня таварыства абароны спажыўцоў **Уладзімір Клешч** гаворыць, што прадавец парушае артыкул 38 "Асноўных правілаў вядзення рознічнага гандлю і гандлёва–вытворчай дзейнасці на тэрыторыі РБ":

Згаданы артыкул гаворыць: пры продажы тэхнічна складаных тавараў, тэкстыльных, трыкатажных, швейных, футравых тавараў і абутку, вырабаў з каштоўных металаў і камянёў разам з таварам пакупніку перадаецца таксама гандлёвы чэк.

Дарэчы, У. Клешч раіць паглядзець, што напісана ў таварным чэку. Цяпер прапануем параўнаць з тым, што павінна быць. Вось што гаворыць той жа артыкул: у чэку ўказваецца найменне тавару, дата продажу, артыкул, гатунак і кошт, а таксама подпіс асобы, якая непасрэдна ажыццявіла продаж. Калі вам не даюць чэк, то звяртайцеся да адміністрацыі рынку.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Уводзіцца абавязковая сертыфікацыя паслуг цырульняў

**МІНСК. З 1 ліпеня 2001 года ў Беларусі будзе ўведзена абавязковая сертыфікацыя паслуг цырульняў.**

У сувязі з гэтым Дзяржаўнаму камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі, сумесна з Беларускім дзяржаўным аб'яднаннем арганізацый бытавога абслугоўвання насельніцтва, урад даручыў распрацаваць да 1 студзеня 2001 года парадак сертыфікацыі паслуг цырульняў, а таксама арганізаваць навучанне і атэстацыю экспертаў-аўдытараў па сертыфікацыі паслуг цырульняў.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

# Рубель ці рубль?

МАСКВА. У сераду пасля пасяджэння саўміна саюза Беларусі і Расіі расійскі прэм'ер **Міхаіл Касьянаў** паведаміў, што з 1 студзеня 2005 года расійскі рубель стане плацежнай адзінкай дзвюх краін. А яшчэ праз тры гады ён трансфармуецца ў рубель саюзнай дзяржавы. На пасяджэнні таксама абмяркоўвалася уніфікацыя падатковых і мытных рэжымаў.

**Па паведамленні "Газета.ru".**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# «Маладзечна» на першым месцы

**27.08 Маладзечна – Свіслач-Дах (Асіповічы) 4:0 (2:0)**

**Галоўны арбітр** – Генадзь Звярок (Мінск), 800 гледачоў.

**Галы:** Вострыкаў (20), Кабельскі (45), Шаўроў (67, 80).

11 Сідарэнка (Макрыцкі, 54)
10 Міхалёў (6) Вострыкаў (Шаўроў, 54)
8 Крывіцкі (Вільтоўскі, 57) 9 Тартоўскі
7 Багайчук
3 Кабельскі
5 Сысой 2 Рагуновіч
4 Бычкоўскі
1 Рубацкі

Стартавыя хвіліны крыху напалохалі. Тройчы па левым флангзе абароны маладзечанцаў небяспечна атакавалі госці. **Сысой** і **Крывіцкі** ім практычна не заміналі, **Бычкоўскі** неяк нервова падстрахоўваў, і толькі **Рубацкі** надзейна перакрываў шлях мяча. Выратаваў Аляксей і ў сітуацыі, калі метраў з дваццаці дакладна і моцна стрэліў пад перакладзіну паўабаронца **Жак**. У гаспадароў у дэбютныя хвіліны запомніўся толькі ўдар галавою **Багайчука** пасля аўта Крывіцкага. Дарэчы, маладзечанскі апорны паўабаронца правёў, магчыма, лепшы матч у сезоне.

Адкрыты лік быў у контратацы. Маладзечанцы перахапілі мяч у сярэдзіне поля і адразу паследаваў пас **Міхалёву**. Віталь на хуткасці падышоў да штрафной і аддаў перадачу направа **Вострыкаву**. Пашанцавала, што абаронца асіпаўчан паслізнуўся, таму Аляксандр без перашкод увайшоў у штрафную, апрацаваў мяч і класна левай нагою ўдарыў у верхні далёкі кут.

Далейшы ход сустрэчы цалкам кантралявалі маладзечанцы. Толькі напачатку другога тайма сапернікі перахапілі ініцыятыву, але пасля правядзеных замен свежанагія гаспадары канчаткова заблыталі абарону "Свіслачы". Праўда, мелі "дахаўцы" адзін спрыяльны момант для ўзяцця варотаў (моцны далёкі ўдар прыйшоўся побач са штангай), але і той узнік па падказцы **Людаса Румбуціса**: наш трэнер вырашыў псіхалагічна падзейнічаць на футбаліста сапернікаў, крыкнуў: "Бі!".

Спрыяльныя моманты гаспадары не выкарыстоўвалі так. Двойчы варатар выцягваў мяч пальцамі з ніжняга кута. Падаў, здаецца, натуральна, у штрафной **Сідарэнка**. Тры штрафныя ўдары метраў з дваццаці чамусьці заўсёды выконваліся над перакладзінай. Двойчы **Макрыцкі** забіваў са становішча "па-за гульнёй". **Вільтоўскі** з фланга пацэліў у перакладзіну. І інш., і інш.

Вось як забівалі яшчэ тры галы.

45 хвіліна. Крывіцкі падае вуглавы злева па зыходзячай ад варот траекторыі, набягае **Кабельскі** і нагою ў цэнтры штрафной забівае свой першы гол за тры гады выступлення за "Маладзечна", чаму вельмі парадаваліся і ён сам, і партнёры, і гледачы.

67 хвіліна. Міхалёў выканаў штрафны ўдар з правага фланга дакладна на далёкую штангу, дзе высокі Багайчук выскачыў вышэй за ўсіх і скінуў мяч галавою ў цэнтр. Там ніхто не перашкаджаў забіваць **Шаўрову**.

80 хвіліна. Шаўроў пры несупраціўленні стомленых абаронцаў прыняў мяч у дваццаці пяці метрах ад варот, падправаў яго і ўдарыў у левы ніжні кут. Галкіпер не дацягнуўся да мяча, і сфера ад штангі ўляцела ў вароты.

Летась у вышэйшай лізе асіпаўчане двойчы перамаглі маладзечанцаў з агульным лікам 5:1, затое сёлета нашы землякі ўзялі пераканаўчы рэванш 6:0.

Лунінчане прайгралі ў гэтым туры. Цяпер "Маладзечна" на тры ачкі апярэджвае іх і мікашэвіцкі "Граніт". Да фінішу 11 тураў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Маладзечна – Свіслач-Дах. Аляксандра Багайчука спынілі недазволеным прыёмам. Але ўсю каманду асіпаўчане стрымаць не здолелі.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

## А што гэта ў вас за варатар?

Такое пытанне задавалі чысцінцам сапернікі і суддзі па заканчэнні апошняга матча "Забудовы" ў Віцебску. Справа ў тым, што **Аляксандр Мароз** траўміраваў плячо ў мінулай гульні, а **Максім Асадоўскі** з "Маладзечна" захварэў. У вароты тэрмінова стаў **Дзяніс Мятліцкі**. Як ні імкнуліся дзейнічаць абаронцы ўважліва, двойчы новаспечаны галкіпер, у рухах якога лёгка адгадваўся палявы гулец, каманду выратаваў, а ў прапушчаным голе яго віны, здаецца, няма.

Наогул чысцінцы выступаюць нестандартна: дома прайграюць (праўда, паражэнні ад "Азерцаў" 1:2 і "Вераса" 0:1 вельмі крыўдныя), а на выездзе шмат забіваюць і перамагаюць (акрамя "Лакаматыва", яшчэ разграмілі "РШВСМ-Алімпію" 5:1). Цякучасць кадраў, звязаная з фарм-клубаўскімі зносінамі, турбуе не надта, хіба толькі ёсць праблемы ў цэнтры, дзе **Сяргей Дараховіч** патрэбны "Маладзечну", а **Віталь Казяк** – "Металургу" з Беразінскага. Выдзяляецца апошнім часам **Віталь Макрыцкі**, які прыбавіў не толькі ў галявых паказчыках, але і знешне ў фізічных дадзеных. Пакінулі каманду **Андрэй Буглак** і **Сяргей Балыкін**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

## Ці ўдасца смаргонцам рашаючы рывок?

**Смаргонцы відавочна падцягнуліся да першых чатырох месцаў, якія дадуць магчымасць працягнуць барацьбу ў фінальным этапе. Адступаць тут ужо няма куды. Усё залежыць ад саміх футбалістаў. Трэба прайсці канцоўку, што называецца, на адным дыханні.**

– З цяперашнім падборам гульцоў і ўмовамі матэрыяльнага забеспячэння нельга заставацца ў серадняках другой лігі! – з падобнымі словамі (актуальнымі і цяпер), толькі ў больш жорсткіх выказваннях, звярнуліся да гульцоў кіраўнікі клуба пасля паражэння ад "Дарыды" 0:3. Размова падзейнічала, і ў наступных дамашніх матчах "Смаргонь" дома атрымала буйныя перамогі 5:1 над "Арбітай" і 4:0 на "Лакаматывам". На жаль, у Старых Дарогах прайгралі, інакш маглі б ужо адчуваць сябе куды спакайней.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Гол ці не?

Цяпер неабходна ліквідаваць адрыў у тры ачкі, засталося ж чатыры туры. Каманда мае дамашні матч з аўтсайдэрам (хаця якія пры такой шчыльнасці аўтсайдэры?) "Дынама-2", а потым сустрэчы з асноўнымі канкурэнтамі: "Азерцамі" (на выездзе), "РШВСМ-Алімпіяй" (дома), "Верасам" (на выездзе).

Добра ўліўся ў склад нападаючы **Вячаслаў Шпакоўскі**; угадвалі трэнеры, выпускаючы на замену дваццацігадовага **Андрэя Шаблінскага**; магчыма, удалося знайсці аптымальную пазіцыю на полі для **Андрэя Селіванава** (апорны) і **Дзмітрыя Шагойкі** (лібера).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**02.09 Акадэм-Славія (Мінск) – Забудова**

+2=2-1 5-3. У першым крузе 0:2 дома.

**02.09 16-00 Смаргонь – Дынама-2 (Мінск)**

+0=0-1 1-2. У першым крузе 1:2 (Карабінскі) на выездзе.

**03.09 17-00 Маладзечна – Тарпеда (Жодзіна)**

У першым крузе 2:0 (Турчыновіч, Тартоўскі) на выездзе.

■ ПЕРШЫНСТВО ВОБЛАСЦІ

## Вятроў – «фармальны» трэнер «Металурга»

**МАЛАДЗЕЧНА. Некалькі гульняў футбалістамі беразінскага "Металурга" кіруе Валерый Вятроў. Афіцыйны настаўнік каманды Канстанцін Харламаў прысутнічае на матчах, але ў трэніровачным працэсе футбалістаў бярэ нязначны ўдзел.**

– З-за маёй вялікай занятасці ў міні-футбольным "Металургу" аддаваць шмат часу камандзе з Беразінскага я не маю магчымасці, – гаворыць Канстанцін Харламаў. – Таму мы і пачалі прыцягваць да работы маладога трэнера маладзечанскай ДЮСШ. Натуральна, я дапамагаю Валерыю і веру, што ў яго ўсё атрымаецца. Цяперашняя задача каманды – гадаваць дастойную змену футбалістаў для каманд рэгіёна. Пакуль гэта добра атрымліваецца. Прыкладам, Андрэй Лявончык і Генадзь Лужынскі пачыналі гуляць менавіта там.

Валерый Вятроў пра будучае гаворыць з асцярожнасцю:

– Канстанцін Харламаў прапанаваў мне "фармальна" узначаліць "Металург" з Беразінскага. Ці буду прызначаны галоўным трэнерам афіцыйна? Магчыма, але, лічу, не ў гэтым сезоне.

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

**Табло**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

Хімік – Нёман 0:1, Вейна-Днепр – Граніт 0:3, Керамік – Тарпеда 1:1, ЗЛіН – Зорка-ВА-БДУ 0:1, Палессе – Рагачоў-ДЮСШ-1 0:3, Орша – Лунінец 2:0 Трактар – Дынама-Юні 0:2.

| | |
|---|---|
| 1. Маладзечна | 43 |
| 2. Граніт | 40 |
| 3. Лунінец | 40 |
| 4. Тарпеда | 38 |
| 5. Керамік | 34 |
| 6. Нёман | 34 |
| 7. Свіслач-Дах | 32 |
| 8. Орша | 29 |
| 9. Зорка-ВА-БДУ | 26 |
| 10. Рагачоў-ДЮСШ-1 | 26 |
| 11. Дынама-Юні | 23 |
| 12. ЗЛіН | 20 |
| 13. Трактар | 19 |
| 14. Хімік | 15 |
| 15. Вейна-Днепр | 5 |
| 16. Палессе | 1 |

**Бамбардзіры:** Таран (Тарпеда) – 12; Курыловіч – 11; Вадз. Байко (абодва – Керамік), Яцыновіч (Рагачоў) – па 10; **Турчыновіч**, Кірылка (Граніт) – па 9.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**26.08 Лакаматыў (Віцебск) – Забудова 1:3 (1:2)**

**Галы:** (22); Чарнель (33), Макрыцкі (41, 90).

**Склад:** Мятліцкі, Касцюкевіч, Нядзелька (Відрук, 69), Дараховіч, Івашкевіч, Садчанка, Татун, Млечка, Лявончык, Макрыцкі, Чарнель (Лужынскі, 65).

**26.08 Старыя Дарогі – Смаргонь 2:1 (1:0)**

**Галы:** (25), (78); Селіванаў (47).

**Склад:** Пясецкі, Іваноў, Шагойка, Якубіцкі, Юркевіч, Ал. Канапелька (Максіменка, 60), Дукса, Шпакоўскі (Шаблінскі, 67), Дзігілевіч (Карабінскі, 75), Селіванаў, Відук.

Азерцы – Дарыда 0:4, РШВСМ-Алімпія – РВАР 1:4, Верас – Акадэм-Славія 0:1, Дынама-2 – Арбіта 2:2.

| | |
|---|---|
| 1. Дарыда | 39 |
| 2. Акадэм-Славія | 30 |
| 3. РШВСМ-Алімпія | 29 |
| 4. Лакаматыў | 29 |
| 5. Азерцы (-1) | 27 |
| 6. Старыя Дарогі | 26 |
| 7. Верас | 26 |
| 8. Смаргонь | 26 |
| 9. РВАР (-1) | 21 |
| 10. Дынама-2 | 20 |
| 11. Забудова | 15 |
| 12. Арбіта | 13 |

**Бамбардзіры:** Карасёў (Лакаматыў) – 9; Шэўчык (Старыя Дарогі) – 8; ...**Селіванаў**, **Макрыцкі** – па 6.

■ ГАРАДКІ

12-20 жніўня, пасёлку Увельскі Чэлябінскай вобласці, чэмпіянат Еўропы. Сярод 50 удзельнікаў 8 беларусаў (7 з іх маладзечанцы).

1. **Васіль Духанін** (Расія) – 115 бітаў. 2. **Генадзь Сушко** – 116. 3. **Уладзімір Палякоў** (Расія) – 117. (...) 16. **Аляксандр Карповіч** (126).

Камандны залік (7 калектываў). 1. Расія-1 – 12 ачкоў. 2. Расія-2 – 10. 3. Украіна – 7. 4. Беларусь – 7 (маладзечанцы Сушко, Карповіч, **Аляксандр Яршэвіч**, **Віктар Данілаў**, **Аляксандр Кулак** і **Юрый Багмут** з Бярозаўкі).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

